# Мой выхадны

*У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры адкрылася выстава «Шык і рамантыка даўніны» – са збору Віцебскага абласнога краязнаўчага музея. Выстава чакае наведвальнікаў да сярэдзіны жніўня.*

## КУРЫЛКА

*Ішоў адзін чалавек, а насустрач яму кум.*

*— Што вязеш, куме?*

*Кум злез з воза, падышоў і на вуха шэпча:*

*— Авёс.*

*— А чаму ты па сакрэту мне гаворыш?*

*— Каб конь не пачуў!*

***

*— Доктар, мне ўжо восемдзесят гадоў, а я ўсё яшчэ за дзеўкамі бегаю...*

*— Дык гэта ж вельмі дофра!*

*— Так, але я не памятаю, навошта...*

***

*— У чым розніца паміж зэкамі і дэпутатамі?*

*— Першыя чакаюць заканчэння свайго тэрміну з нецярпеннем, а другія – з жахам.*

*Аднаго разу прыходзіць п'яны муж дамоў. Жонка, глянуўшы на яго, спытала:*

*— Ты ўжо, напэўна, і розум прапіў?*

*— Не-э-э, д-д-даражэнькая, толькі грошы.*

***

*— Чаму, пане, у вашым агародзе няма ніводнага пудзіла ад вераб'ёў.*

*— Гэта непатрэбна – мая жонка там увесь дзень тырчыць.*

***

*Прыбеглі людзі на пажар і бачаць: стаіць рукі ў бокі стары Антось каля гумна са збожжам і... хоць бы што. А гумно гарыць – ужо і страха абурылася.*

*Крычаць мужыкі:*

*— Чаго ты стаіш? Дабро ж тваё прападзе.*

*— Ага. Але ж тут і мышэй ляснула...*

***

*— Мой муж злуецца, калі не ведае, на што я трачу грошы.*

*— Дык ты раскажы яму...*

*— Тады ён проста ашалее!*

## КРЫПТАГРАМА

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 14 | 2 | 24 | 2 | 18 | 27 | 9 | 19 | | 13 | 2 | 14 | 6 | 21 | 18 | 2 | 3 | 19 | |
| | 12 | 21 | 14 | 4 | 26 | 2 | | 12 | 23 | 3 | 2 | | 16 | 2 | 10 | 2 | 1 | |
| 17 | 5 | 20 | 2 | 26 | 2 | | 22 | 2 | | 18 | 4 | 24 | 7 | 12 | 2 | 8 | 6 | 7 |

*Адшукайце словы, значэнні якіх пададзены ніжэй, і размяркуйце літары ў клетках крыптаграмы адпаведным чынам. Вы зможаце прачытаць выказванне славутага палітычнага дзеяча ВКЛ Льва Сапегі.*

**Словы:**

I. 1-2-3-4-5-6-7 – гістарычная вобласць па ніжнім цячэнні Нёмана і ўзбярэжжы Балтыйскага мора, заселеная плямёнамі балтаў. У 1422 годзе была канчаткова далучана да ВКЛ.

II. 8-9-2-10-11-12-2 – знакаміты дзеяч эпохі Адраджэння, беларускі першадрукар і асветнік.

III. 13-2-12-14-2-12-9-2 – народны паэт Беларусі, аўтар зборнікаў "Крык сойкі", "I вера, і вернасць, і вечнасць". Яму належаць вядомыя словы:

*I ўсё мілагучна для слыху майго:*

*I звонкае "дзе", і густое "чаго".*

IV. 15-2-16-17-18-19-20 – імя вядомага беларускага змагара, кіраўніка народнага паўстання 1794 г., а таксама ўдзельніка вызваленчай вайны ў Паўночнай Амерыцы.

V. 21-22-23-8-24-2-25 – унук полацкага князя Рагвалода, сын Рагнеды, імем якога было названа мястэчка пад Мінскам.

VI. 2-24-7-26-27-10-16 – Вялікі князь Літоўскі, сын Гедыміна. З дапамогай брата Кейстута скінуў з вялікакняскай пасады Яўнута і стаў княжыць сам.

VII. 6-19-28-2 – прозвішча беларускага селяніна, які падчас Вялікай Айчыннай вайны паўтарыў подзвіг Івана Сусаніна.

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З № 26 (129):**

***Па гарызанталі:*** 1. Шкода; 6. Багатыроў; 9. Талент; 10. Вітраж; 12. Аса; 15. Аратар; 17. Краіна; 18. Алібі; 19. Упадак; 21. Табака; 23. Бак; 25. Талака; 26. Авечка; 27. Паляванне; 28. Ладан.

***Па вертыкалі:*** 2. Кварта; 3. Дрыгва; 4. Палена; 5. Контур; 7. Жаваранак; 8. Малінаўка; 11. Матуз; 13. Скіба; 14. Ганак; 16. Рак; 17. Кіт; 20. Ахапак; 22. Абедня; 23. Баляса; 24. Кабала.




**Некоторые результаты национальных опросов**

(по данным Независимого института социально-экономических и политических исследований)

| Типология электората | 1997 | 1998 | 1999 | апр. 2000 | июнь 2000 |
|---|---|---|---|---|---|
| Убежденные сторонники Лукашенко | 26 | 29,3 | 21,8 | 15,5 | 13,40 |
| Колеблющееся большинство | 53,2 | 53,3 | 52,1 | 54,2 | 58,30 |
| Убежденные противники Лукашенко | 20,8 | 17,43 | 26,1 | 30,3 | 28,30 |

# Беларускі календар: 15 ліпеня



***15 ліпеня 1410 года на ўзгорыстым полі паміж тагачаснымі прускімі мястэчкамі Грунвальд і Таненберг у крывавай бязлітаснай сечы злучаныя сілы Вялікага княства Літоўскага ды Польшчы перамаглі мацнейшае ў Еўропе войска Тэўтонскага ордэна.***

Грунвальдская бітва ўвайшла ў гісторыю як найвялікшая сеча сярэднявечча. На прускіх пагорках у той спякотны ліпеньскі дзень білася каля ста тысяч чалавек. Войска вялікага князя Вітаўта складалася з 40 харугваў (30 з іх, зазначу, мелі на сцягах "Пагоню" – герб ВКЛ) і 5-тысячнай татарскай конніцы. З тых 40 харугваў (а гэта 25 тысяч ваяроў) палова прыйшла з беларускіх земляў: гарадзенскай, лідскай, віцебскай, берасцейскай, пінскай, полацкай, смаленскай, слуцкай ды іншых. Кожны другі ратнік войска ВКЛ загіне ў той векапомнай для ўсіх ацалелых сечы...

Пра ход Грунвальдскай бітвы існуе шмат навуковай и папулярнай літаратуры. I таму звярну вашу ўвагу толькі на адзін момант. Вырашальнае значэнне для перамогі пад Грунвальдам меў бліскуча праведзены нашым вялікім князем адмысловы манеўр, узгоднены з Ягайлам. Маю на ўвазе "ўцёкі" харугваў Вітаўта да свайго абоза і пагоню за імі праціўніка, у выніку чаго былі парушаны баявыя парадкі цяжкаўзброеных тэўтонскіх рыцараў, і ўсё ордэнскае войска неўзабаве трапіла ў два велічэзныя "катлы". Так пачаўся разгром ненавісных тэўтонаў.

У Грунвальдскай бітве загінулі вялікі магістр ордэна, вялікі маршал, вялікі комтур, вялікі адзежнічы, скарбнік, дзесяткі комтураў, войтаў, амаль усе ордэнскія браты і тысячы прускіх рыцараў, наёмнікаў. Разгромлены ордэн так і не здолеў узнавіць сваіх ранейшых сілаў ды неўзабаве знік як самастойная дзяржава. Стасунак сілаў у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе змяніўся на карысць славянскіх краінаў.

Нямецкія рыцары былі ўпэўнены ў сваёй перамозе. Ордэн паклапаціўся нават пра кайданы, ланцугі для палонных, пра віно, каб пасля бітвы адсвяткаваць перамогу, – усё гэта знайшлі ў захопленым рыцарскім абозе сапраўдныя пераможцы.

Страшна падумаць, што ў тыя кайданы і ланцугі маглі быць закаваныя беларускія, польскія, украінскія, літоўскія воі... У выпадку паразы злучаных сіл ВКЛ і Польшчы ў хуткім часе, несумненна, з намі адбылося б тое, што і з славянскімі плямёнамі бодрычаў, люцічаў, шправянаў, а таксама з ваяўнічым, грозным літоўскім племем прусаў. Усе яны трапілі пад жалезную пяту Тэўтонскага ордэна, які праводзіў палітыку анямечвання пакораных народаў, і ад іх не засталося нічога, апроч імёнаў...

590 гадоў таму ў лютай сечы славяне абаранілі сваю незалежнасць. Дорага каштавала перамога, аднак амаль двухсотгадовая агрэсія нямецкіх рыцараў на ўсход была спыненая. I ўсё – дзякуючы вайсковаму таленту Вітаўта. Дзякуючы мужнасці нашых продкаў, якія адстаялі для сваіх дзяцей і нашчадкаў, а значыць, і для нас з вамі, права на свабоду, права быць нацыяй, жыць ва ўласнай дзяржаве, гаварыць на роднай мове, мець сваю культуру. I таму сёння, калі на нашых вачах бессаромна гандлююць Беларуссю і адкрыта зневажаюць усё нашае, адзінае, спрадвечнае, мы павінны заўсёды памятаць, дзеля чаго і каго здабытая тая Перамога.

Слава пераможцам!

**Павел АБРАМОВІЧ.**

***На ілюстрацыі:*** *гравюра з "Хронікі ўсяго свету" М. Бельскага. Грунвальдская бітва. 1564 г.*

## ПРОГРАММА ТВ — ВОСКРЕСЕНЬЕ, 23 ИЮЛЯ

**БТ**

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00 Мультсериал «Путешествие в прошлое»(США).10-я серия.
8.30 Здоровье. Тележурнал.
9.00, 15.00 Новости.
9.10 Детский экран. «Бал сказок». Худ.фильм(Венгрия).
10.15 Мультиклуб.
10.45 «Сегодня с вами...». Руководитель творческой мастерской «Дизайн» вице-президент Белорусского союза дизайнеров Сергей Евлампиев.
11.10 Туробъектив. Путешествия, встречи, отдых.
11.30 «Все нормально, мама!». Развлекательная программа.
12.00 «Премьер-парад». Юмористическая программа.
12.25 Марсово поле. Музыкально-развлекательная программа.
12.45 Семейный телеканал «На волне взаимопонимания».
13.30 Сериал по выходным. «На гребне волны»(США).
14.15 Международные спортивные новости.
14.30 Сельчане. Гомельская область.
15.10 Хоккей на траве. Чемпионат Европы.
15.30 Белорусский дом. Художественно-публицистическая программа.
16.00 Наши песни. Авторская программа Анатолия Ярмоленко.
16.30 Теленавигатор.
16.50 Банка комиксов.
17.15 С.Марсо в лирической комедии «БУМ» (Франция).
19.00 «Судьба человека». Елена Новицкая.
19.30 Стадион.
20.00 Резонанс.
20.55 Ток-шоу «Карамболь» с участием Валерии.
21.30 Х.Хантер и У.Херт в худ.фильме «Теленовости» (США).
23.40 Акколада. Музыкально-развлекательная программа.
0.10 Авто-парк.

**ОРТ**

07.00, 09.00, 14.00, 17.00 Новости.
07.10 Армейский магазин.
07.40 «Аладдин».
08.10 Утренняя звезда.
09.10 «Непутевые заметки».
09.30 Пока все дома.
10.05 Комедия «Альф».
10.35 Здоровье.
11.05 Фильм «Вертикаль».
13.00 Клуб путешественников.
13.45 История одного шедевра.
14.10 Сериал «Горец».
15.05 Возможно все!
15.20 «101 далматинец».
15.50 «Новые приключения Винни-Пуха».
16.15 «Чтобы помнили...» Владимир Высоцкий.
17.15 Смехопанорама.
17.45 «Ералаш».
17.55 Комедия «Перекресток».
20.00 Время.
20.55 Погода.
21.00 Боевик «В осаде».
22.50 Время футбола.
23.35 Детектив «Признание комиссара полиции прокурору республики».

**РТР**

07.00 Фестиваль солдатской песни «Виктория».
08.20 Устами младенца.
08.50 Доброе утро, страна.
09.25, 00.30 Прогноз погоды.
09.30 «Аншлаг» и К.
10.30 «Городок».
11.00 Русское лото.
11.40 Мультфильмы.
12.00 Вести.
12.25 Детектив «Лекарство против страха».
14.10 Диалоги о животных.
15.05 «Сколько стоит красота?». Док.фильм.
16.00 Пресс-клуб.
17.00 «Международная панорама».
17.30 Комедия «Аферисты».
19.00 Зеркало.
19.45 Комедия «Дети понедельника».
21.35 Боевик «Схватка».

**НТВ**

07.00, 09.00, 11.00, 15.00 Сегодня.
07.15 Сериал «Голубое дерево».
08.10, 19.50 Сериал «Неприкасаемые».
09.20 Путешествия натуралиста.
09.55 Профессия - репортер.
10.20 «Полундра».
11.30 Служба спасения.
12.00 Детектив «Возвращение резидента».
14.35 Фитиль.
15.25 Большие родители.
16.00 Независимое расследование.
16.55 Сериал «Она написана убийство».
18.00 Итоги.
19.35 Куклы.
20.50 «Итого».
21.10 Фильм «Царская охота».

**КУЛЬТУРА**

09.05 «Аистенок».
09.30 «Детство Бемби». Худ.фильм.
10.50 «Мой цирк».
11.15 «Экспедиция «Чиж».
11.45 «Консилиум».
12.10 «Огненный ангел». Док.фильм.
13.30, 21.00 Новости культуры.
13.45 «Райская птичка». Худ.фильм.
15.10 Положение вещей.
15.35 Л.Зыкина. Посвящается другу.
16.15 Дворцовые тайны.
16.45 Мультфильмы.
17.15 «Предисловие к будущему».
17.45 Шедевры мирового музыкального театра.
18.50 Вечерняя сказка.
19.00 XX век. Избранное. «Silentium. Судьба Великой княгини Елизаветы Федоровны Романовой».
19.55 «Васса». Худ.фильм. 2-я серия.
21.20 «С потолка».
21.45 «Фильм, фильм, фильм...» Мультфильм для взрослых.
22.05 Международные соревнования по художественной гимнастике «Гран-при Москва-2000».

**ТВ6**

06.00 Триллер «На лезвии ножа».
07.30, 11.40, 17.10 Дорожный патруль.
07.45 «Амба-ТВ».
08.15 «Ле-go-go».
08.55 Стильное шоу «Fason».
09.30 «Все в сад!».
09.45 «Фактор успеха».
10.15 «Шоу Бенни Хилла».
11.05 Телемагазин в Минске.
11.15 Канон.
12.05 Трагикомедия «Формула любви».
13.40 Мультфильмы.
14.05 «Формула здоровья».
14.15 «Вы - очевидец».
15.10 «И снова 33 квадратных метра. «Маньяк на обочине». О.С.П. - лучшее.
16.15 Катастрофы недели.
17.30 Комедийный боевик «Шальные алмазы».
19.10 Боевик «Борьба за выживание».
20.55 Комедия «Мастера угрозы».
22.45 Ваша музыка. Владимир Асимов.
23.50 Эротический сериал «Дневники Красной туфельки».



РАБОЧЫ
ШТОТЫДНЁВАЯ МАСАВА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Заснавальнік і галоўны рэдактар **Віктар ІВАШКЕВІЧ**

*Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1255 ад 27.12.99г. Наклад 20 000. Нумар падпісаны ў друк 11.07.2000 г. у 19.00. Заказ 511. Надрукавана ў друкарні ПП "Мэджык" (г.Мінск, вул.В.Харужай, 13/61)*

Адрас рэдакцыі:
**220030, г.Мінск, пл.Свабоды,23, «РАБОЧЫ»**
**E-mail: kapp@irex.minsk.by**
Тэл. (017)227-04-54
Тэл./факс (017)227-13-16